

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС


Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 519 КРАСАВІК 2006 г.
Год выданьня 56


# Акцыя салідарнасьці 19 сакавіка ў Нью Ёрку




У нядзелю, 19 сакавіка, у дзень прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі, каля беларускага кансуляту ў Нью Ёрку, а таксама каля штаб-кватэры ААН і беларускага прадстаўніцтва пры Аб'еднаных Нацыях адбылася акцыя салідарнасьці з дэмакратычнымі сіламі Беларусі, ладжаная Нью Ёрскім аддзелам БАЗА. У гэтыя надзвычай важныя для Бацькаўшчыны дні сотні беларусаў Амэрыкі выйшлі падтрымаць справу здабыцьця свабоды й дэмакратыі ў Беларусі. Акцыі падтрымкі дэмакратыі прайшлі 16,19 і 25 сакавіка ў Нью Ёрку, Чыкага, Вашынгтоне, Мінэапалісе. Акцыя ў Нью Ёрку была хіба найбольшай калькасна, у ёй узяло ўдзел больш за сотню асобаў.

Акцыя пачалася каля штаб-кватэры Аб'еднаных Нацыяў на Першай Авэню ў Мангэтане. Перад удзельнікамі, пераважна маладымі людзямі, выступіў старшыня Нью Ёрскага аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка. Ён акрэсьліў мэты акцыі й парадак яе правядзеньня, а таксама даў інфармацыю пра выбары ў Беларусі. Затым выступіў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць, які прывітаў прысутных і падзякаваў за іхнюю актыўнасьць і неабыякавасьць да лёсу Бацькаўшчыны. Ён падкрэсьліў неабходнасьць нашай салідарнасьці як у сэньсе міжнародным, гэтак і адзінства ў межах нашых арганізацыяў.

Затым удзельнікі акцыі вырушылі па 42 вуліцы й 3 Авэню да будынку, дзе знаходзіцца кансулят Беларусі. Каля яго ўжо стаялі ўдзельнікі пікету, асобы, якія праводзілі экзыт-пол (апытаньне на выхадзе) і акцыю народнага галасаваньня. Дэманстранты сталі на адведзеных пазыцыях уздоўж 3-й Авэню і пачалі скандаваць:. "Жыве Беларусь!", "Беларусь – ТАК! Лукашэнка – НЕ!", "Лукашэнку – час сыйсьці!" ды іншыя. З прамовамі аб сытуацыі ў Беларусі й апошнімі навінамі пра выбары да прысутных зьвярнуўся сп. В. Зайка, таксама выступілі сп. сп. М. Цімашэнка, А. Марцуль.

Сярод мінакоў распаўсюджвалі ўлёткі, да дэманстрацыі далучылася некалькі англамоўных нью ёркаўцаў, зацікаўленых ходам падзеяў у Беларусі. Пасьля шматкротных гуканьняў "Жыве Беларусь!" нават прыстаўленыя да акцыі два ахоўнікі парадку сталі амаль без акцэнту дэманстраваць сваё веданьне гэтага беларускага покліча. Гучэлі беларускія гімны: нацыянальны ("Мы выйдзем шчыльнымі радамі") і рэлігійны ("Магутны Божа"), "Пагоня" на словы М. Багдановіча, "Ідуць жаўнеры-беларусы".

Праз пару гадзінаў удзельнікі акцыі вырушылі маршам да прадстаўніцтва Беларусі ў ААН на 67 вуліцу, пакінуўшы ля кансуляту пікет з некалькіх дзясяткаў чалавек. Падчас маршу па 3 Авэню бел-чырвона-белыя сьцягі вельмі эфэктна выглядалі на тле нью ёрскіх рэкламаў і хмарачосаў, а вуліцы ўздрыгвалі ад гучных поклічаў "Жыве Беларусь!" і "Верым! Можам! Пераможам!". Каля прадстаўніцтва Беларусі ў ААН адбыўся працяг мітынгу, які ўсе прысутныя палічылі вельмі пасьпяховым і натхняючым на далейшыя акцыі салідарнасьці з народам Беларусі.

***Віталь ЗАЙКА***




## Зварот Прэзыдэнта ЗША з нагоды 88-х угодкаў утварэньня БНР

Я вітаю ўсіх тых, хто працуе на карысьць вяртаньня свабоды і адзначае 88-я ўгодкі першай спробы ўсталяваць незалежнасьць Беларусі.

Свабода – гэта права, якое даецца кожнаму чалавеку па нараджэньні і дае пастаянную надзею ўсяму чалавецтву. Прага справядлівасьці, свабоды, павагі да правоў чалавека і надзейнага ды рэпрэзэнтатыўнага ўраду, зьяўляецца ўнівэрсальнай. Нацыі разьвіваюцца тады, калі таленты і свабоды квітнеюць, а не тады, калі яны падаўляюцца. Урады могуць натхніць грамадзтва і надаць уладу грамадзянам толькі праз захаваньне законнасьці, абмежаваньне ўлады дзяржавы, правядзеньне свабодных і справядлівых выбараў ды павагі да правоў усіх людзей.

Я з павагаю стаўлюся да тых, хто працуе на карысьць вяртаньня свабоды ў Беларусі. Думкі нашай нацыі знаходзяцца з тымі, хто перасьледаваўся, быў затрыманы, кінуты ў турмы і зьбіты за свае намаганьні. Злучаныя Штаты асуджаюць дзеяньні беларускіх службаў аховы парадку раніцай 24 сакавіка і заклікаюць усіх сяброў міжнароднай супольнасьці далучыцца да нас і асудзіць любыя злоўжываньні, а таксама патрабаваць ад беларускіх уладаў паважаць права ўласных грамадзянаў мірна выказваць свае меркаваньні. Злучаныя Штаты Амэрыкі будуць і надалей падтрымліваць народ Беларусі і тых, хто дапамагае Беларусі заняць належнае месца ў дэмакратычнай садружнасьці.

***Джордж БУШ***

# Беларусь змагаецца



Нягледзячы на рэпрэсіі, на жорсткую расправу, на антыканстытуцыйны чарговы захоп улады, ёсьць падставы для радасьці й аптымізму. Гэта найперш тое, што ў грамадзтве пачалося абуджэньне і пазбаўленьне ад страху. Мы ўбачылі, што вырасла новае добрае пакаленьне моладзі, якое гатовае змагацца за вольную Беларусь пад сьвятым беларускім Бел-Чырвона-Белым сьцягам. Мы бачылі, што іх падтрымалі бацькі і дзяды.

Мы пераканаліся таксама, што доўга яшчэ нашае грамадзтва будзе ікаць камунізмам, нявольніцтвам і каланіялізмам. Акупацыя і камунізм дарма не мінаюць. Расплочвацца за вынішчэньні, уціск і паніжэньне будуць цэлыя пакаленьні. Але тым больш высакародныя адраджэнскія ідэалы нашага змаганьня.

Высновы, якія пацьвердзілі сакавіцкія падзеі, нікога ў нас, відаць, не зьдзівілі. Але гаварыць пра іх трэба ўвесь час і, галоўнае, даводзіць да сьведамасьці людзей, якія прывыклі кіравацца толькі сваім вопытам, не абцяжарваючы сябе думаньнем.

Падзеі выразна паказалі, што прарасейскі рэжым у Беларусі – гэта ёсьць мадыфікацыя звычайнага фашызму, з той асаблівасьцю, што ён ёсьць палітычна прамаскоўскі і антыбеларускі ў нацыянальнай ідэалёгіі.

Сакавік выявіў наглядна, што акрамя Лукашэнкі (які амаль два тыдні адсутнічаў пасьля "выбараў") уладай у Беларусі кіруе і распараджаецца прамаскоўская хунта.

Выбарчая кампанія выявіла дзеяньне ў Беларусі палітычных тэхналёгіяў, распрацаваных у Маскве ў асяродзьдзі крамлёўска-лубянскай бюракратыі, набліжанай да Пуціна (група Глеба Паўлоўскага). Канцэпцыя стварэнь-

***Заканчэньне на бач. 3***

# Беларусь за месяц

## “Выбары” Лукашэнкі прэзыдэнтам

Паводле дадзеных Цэнтарвыбаркаму, на прэзыдэнцкіх выбарах 19 сакавіка за А. Лукашэнку прагаласавалі 83% выбарцаў (альбо 5 млн 501 тыс. чалавек), за Аляксандра Мілінкевіча — 6,1% (405,5 тыс.), за Сяргея Гайдукевіча — 3,5% (230,7 тыс.) за Аляксандра Казуліна — 2,2% (147,4 тыс.). Удзел у выбарах узялі 92,9% грамадзянаў з правам голасу ад агульнай іх колькасьці (6 млн. 630 тыс. 653 чалавекі). Паводле чутак, нібыта другое выніковае месца мусіў заняць С. Гайдукевіч, але масавы выхад людзей на Кастрычніцкую плошчу ўвечары 19 сакавіка, прымусіў ЦВК “перагледзець” лічбы.




*Кастрычніцкая плошча вечарам 19 сакавіка (зьлева) і ў наступны дзень.*






*Ахова намётавага гарадку (здымак зьлева) і ягоныя насельнікі.*

Прэзыдэнцкая гонка праходзіла са шматлікімі парушэньнямі выбарчага заканадаўства. 31% беларусаў, што маюць права галасаваць, прагаласавалі “добраахвотна-прымусова” датэрмінова. Звычайна ў іншых краінах, напрыклад у Расеі, у такім галасаваньні бяруць удзел 1,5-3% выбарцаў. Апроч сапраўднай дабраахвотнасьці на датэрміновым галасаваньні сярод пэнсіянэраў на выбарчыя ўчасткі прымусова ганялі студэнтаў, вайскоўцаў, міліцыянтаў, супрацоўнікаў дзяржаўных прадпрыемстваў. У некаторых унівэрсытэтах 18 сакавіка быў абʼяўлены выходным днём, а інтэрнаты зачыняліся на 18-19 сакавіка — труціць пацукоў і тараканаў. Каб іншагародніх студэнты выехалі на гэтыя дні зь Менску.

Міжнародныя назіральнікі ад СНД, натуральна, прызналі выбары “адкрытымі, свабоднымі, дэмакратычнымі і легітымнымі”. Тыднем пазьней яны знойдуць процьму парушэньняў на парлямэнцкіх аж занадта дэмакратычных выбарах ва Ўкраіне. Эўрапейскія назіральнікі, найперш ад Арганізацыі па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Эўропе, заявілі, што беларускія выбары прызнаюцца несапраўднымі і недэмакратычнымі. У выніку Лукашэнку зь пераабраньнем павіншавалі толькі кіраўнікі Расеі, Ірану й Кубы.

Пазьней, пасьля жорсткага разгону намётавага гарадку і зьбіцьця ўдзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі, эўрапейскія чыноўнікі заклікалі скласьці “чорны сьпіс” неўязных у краіны Эўразьвязу людзей, датычных да фальшаваньня вынікаў выбараў, разгону дэманстрацыяў і г. д.: чальцоў выбарчых камісіяў, міліцыянтаў, судзьдзяў, адыёзных журналістаў і тэлевядучых. Чарнавік сьпісу налічвае больш за 30 старонак (www.spisok.net). Адначасова Эўразьвяз пляную спрасьціць візавы рэжым для прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці і простых грамадзянаў — каб яны маглі без перашкодаў наведваць краіны Еўразьвязу”.

## Менская вясна — 2006

Нібы “бліскучая і сакрушальная” перамога Лукашэнкі выклікала масавы пратэст у Менску. 19 сакавіка на Кастрычніцкай плошчы і прылеглых тэрыторыях а 20-й гадзіне сабраліся, паводле розных падлікаў, ад 15 000 да 30 000 чалавек.

Напярэдадні выбараў дзяржпрапаганда распускала чуткі, палохаючы людзей, што цэнтар сталіцы будзе ачэплены трыма кардонамі спэцназу, у горад будуць прывезеныя дзясяткі тысячаў міліцыянтаў зь іншых гарадоў, а супраць мітынгоўцаў будуць ужытыя спэцсродкі. КДБ у асобе свайго кіраўніка Сьцяпана Сухарэнкі за тры дні да выбараў правёў прэс-канфэрэнцыю, на якой паведаміў, што ўвечары 19 сакавіка ў Менску апазыцыя рыхтуецца да збройнага зьвяржэньня ўлады з тэрактамі ў школах. У ход нават мусілі пайсьці здохлыя пацукі, якімі апазыцыя патруціць ваду ў Менску. Сухарэнка намякнуў, што ўсе ўдзельнікі вечаровых дэманстрацыяў будуць прыраўнаваныя да тэрарыстаў, таму ім будзе пагражаць пажыцьцёвае зьняволеньне і нават сьмяротнае пакараньне. За некалькі дзён перад выбарамі паплечнікі А. Мілінкевіча і кіраўнікі ягоных штабоў у рэгіёнах атрымалі розныя тэрміны адміністрацыйнага арышту (ад 7 да 15 сутак). Гэта было зроблена дзеля таго, каб выключыць іх знаходжаньне на волі 19 і 20 сакавіка.

Але людзі, пераадолеўшы страх і запалохваньні, прыйшлі ўвечары 19 сакавіка ў цэнтар Менску. Запоўнена была ня толькі плошча, але й адваротны бок часткі праспэкту — ваколіцы Дому афіцэраў і сквэр перад рэзыдэнцыяй прэзыдэнта. Горад ня быў перакрыты, а міліцыя і спэцназ у справы ў гэты вечар ня ўмешваліся, хоць і дзяжурылі ў прылеглых дварах.

Нажаль, А. Мілінкевіч і ягоныя паплечнікі цалкам ня выкарысталі высокай актыўнасьці людзей , зьявіўшыся на плошчы толькі праз паўтары гадзіны пасьля пачатку акцыі. Прысутныя на плошчы добра ўжо прамерзлі і накрычаліся. Дый мітынг, шчыра кажучы, ня ўдаўся. Адсутнічала гукаўзмацняльная апаратура, і выступоўцаў — А. Мілінкевіча, С. Калякіна, А. Лябедзьку, было кепска чуваць нават у радыюсе 50 мэтраў, ня кажучы ўжо пра ўсю плошчу. З-за гэтай кепскай чутнасьці й неспрыяльных умоваў надвор'я (пачалася прыродная ці “спрабакаваная” спэцсродкамі завіруха) людзі сталі разыходзіцца. Толькі пару тысячаў удзельнікаў мітынгу рушылі да Плошчы Перамогі ўсклаcьці кветкі да Вечнага агню, пасьля чаго разышліся.

На наступны дзень на Кастрычніцкай плошчы сабралася каля пяці тысячаў чалавек. Пры канцы мітынгу сярод моладзі стыхійна ўзьнікла ініцыятыва паставіць на плошчы намёты. У першы вечар былі пастаўленыя чатыры намёты, праз дзень іх колькасьць вырасла да 20. Міліцыянты й “ціхары” ў цывільным імкнуліся актыўна супрацьдзейнічаць выстаўленьню намётаў, але ўдзельнікі акцыі выставілі вакол намётаў два колы ачапленьня і не прапускалі правакатараў. Тады ўлада пачала затрымліваць людзей, што несьлі ўдзельнікам акцыі цёплыя рэчы, коўдры, тэрмасы з кавай, гарбатай, ежу, біяпрыбіральні. Затрымалі дзясяткі чалавек, у тым ліку галоўнага рэдактара “Нашай Нівы” Андрэя Дынько. Паралельна ішло паляваньне на жыхароў намётавага гарадку. Іх затрымлівалі на выхадзе з Плошчы, калі яны ішлі дахаты — пераапранунцца, адпачыць ці пад'есьці. Усяго ў першы дзень (панядзелак, 20 сакавіка) былі затрыманыя больш за 100 чалавек, у другі — 50 чалавек. Усе яны асуджаныя на розныя тэрміны адміністрацыйнага арышту (ад 7 да 10 сутак). Прычым усе затрыманыя былі асуджаныя паводле аднаго артыкулу — нецэнзурная лаянка, нерэагаваньне на папярэджаньні міліцыі, чапляньне да мінакоў.

Паралельна беларускія тэлеканалы й друкаваныя СМІ разгарнулі шалёную прапаганду, што на плошчы сабраліся п'яныя юнакі, якім заплацілі грошы. У адказ удзельнікі гарадку — зьбольшага не зьвязаныя нейкімі палітычнымі прыхільнасьцямі — увялі сухі закон і павялічылі ахову намётаў. У іхную падтрымку выступілі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла і Старшыня КХП-БНФ Зянон Пазьняк.

Намётавы гарадок праіснаваў да раніцы 24 сакавіка (ягоныя ўдзельнікі хацелі пратрымацца да Дня Волі). А 3-й раніцы плошча была ачэпленая спэцназам, а жыхары гарадку затрыманыя і зьвезеныя ў спэцпрыёмнік-размеркавальнік на Акрэсьціна. Намётавы гарадок разрабавалі марадзёры з камунальных службаў і пераапранутыя міліцыянты.

Пазьней частка затрыманых была адпраўленая ў сьледчы ізалятар у горад Жодзіна, дзяўчатаў адправілі ў спэцпрыёмнік на Старабарысаўскім тракце ў Барысаве. Усе яны былі асуджаныя (больш за 400 чалавек) у пятніцу 24 сакавіка і ў панядзелак 27 сакавіка на тэрміны ад 10 да 15 сутак. Пакараньне яны адбывалі ў Жодзінскім ізалятары часовага ўтрыманьня, а таксама на Акрэсьціна .

Нягледзячы на брутальны разгон акцыі на Кастрычніцкай плошчы больш як тыдзень жыхары Менску ўшаноўвалі памяць пра намётавы гарадок. Яны ў розных месцах горада, ня глядзячы на пагрозу атрыманьняў, запальвалі сьвечкі, прыносілі на Кастрычніцкую плошчу кветкі.

Удзельнікі намётавага гарадку дабіліся галоўнага — ускалыхнулі Менск, што спаў ад 1996 году, навучылі людзей перамагаць страх — і адклалі інаўгурацыю Лукашэнкі, што меркавалася правесьці на Кастрычніцкай плошчы 31 сакавіка. Ня надта вялікае шчасьце праводзіць “урачыстасьць” у ачапленьні АМАПу ды пад гучныя крыкі менчукоў “Ганьба”, якімі-б — упэўнены на 100% — суправаджалася “каранацыя”.

## Дзень Волі ў Менску

25 сакавіка на адзначэньне галоўнага сьвята ў цэнтры Менску выйшла каля 10 000 чалавек. Да 12-й гадзіны міліцыя і спэцназ перакрылі ўсе подступы і пераходы да Кастрычніцкай плошчы — каб не дапусьціць збору людзей у месцы, што за тыдзень стала знакавым для менчукоў.

Аднак людзі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, сьцягамі Эўрасаюзу, харугвамі з выявай гербу Менску (Панны Марыі) сабраліся на ходніках уздоўж плошчы і на прылеглых вуліцах, скандуючы “Свабоду”, “Жыве Бела-



*Разгон АМАПам мірнага шэсьця.*



*А. Мілінкевіч выступае на мітынгу ў парку.*

русь!", "Мілінкевіч!" Пасьля міліцыя і спэцназ вельмі жорстка — душачы, зьбіваючы, штурхаючы — пачалі выцясьняць людзей з праспэкту, не даючы ім злучыцца. Акольнымі шляхамі — вуліцай Янкі Купалы, Нямігай, Багдановіча — грамадзяне ўсё-ж сабраліся ў парку Янкі Купалы (каля 10 000 чалавек), дзе і прайшоў мітынг, на якім выступілі пісьменьнікі, палітыкі, грамадзкія дзеячы. Аляксандар Мілінкевіч прапанаваў стварыць шырокі нацыянальна-вызвольны рух за свабоду. Па сканчэньні акцыі адзіны кандыдат заклікаў людзей разысьціся. Частка паслухалася, другая — не. Яны паслухаліся іншага экс-кандыдата ў прэзыдэнты Аляксандра Казуліна і рушылі да спэцпрыёмніка-разьмеркавальніка ў завулку Акрэсьціна патрабаваць вызваленьня ўсіх палітвязьняў (адлегласьць складала 5 км).

Калёна з 3 000 чалавек хутка вырасла да 10 000 чалавек, рухаючыся па вуліцах М. Багдановіча і Нямігі. Людзі выходзілі з крамаў, тралейбусаў, далучаючыся да дэманстрантаў. Дайсьці да Акрэсьціна не атрымалася.

Дэманстрантаў брутальным чынам спынілі за Тэатрам музкамэдыі, пад чыгуначным мостам, сцэпназаўцы, якімі камандаваў кіраўнік спэцыяльнага атраду хуткага рэагаваньня Дзьмітры Паўлічэнка.

Супраць дэманстрантаў быў выкарыстаны ўвесь набор спэцродкаў — дымавыя шашкі, шумавыя гранаты, сьлёзацечны газ. Людзей жорстка зьбівалі дубінкамі й нагамі. Быў брутальна зьбіты й арыштаваны Аляксандар Казулін. На раніцу 3 красавіка заставаўся невядомы лёс Сяргея Атрошчанкі, які паводле прэс-службы А. Казуліна, памёр у 9-й больніцы ад нанесеных траўмаў і ранаў.

Усіх затрыманых адвезьлі ў сьледчы ізалятар у Жодзіна, і ў панядзелак 27 сакавіка прыгаварылі да розных тэрмінаў адміністрацыйнага арышту — 4, 7, 10, 13, 15 сутак.

***Паводле www.charter97.org і www.svaboda.org***

## Кошты на газ узрастуць

30 сакавіка расейскі нафтапаліўны магнат "Газпром" абвесьціў пра павышэньне коштаў на газ, што пастаўляецца ў Беларусь. Кошты, паводле кіраўніка "Газпрому" Аляксея Мілера, павінны ўзрасьці "з рэкордна нізкіх" ($46,48 за 1 000 кубамэтраў) да коштаў, што "адпавядаюць сусьветнаму ўзроўню". Сярэдні кошт 1000 кубамэтраў газу ў Эўропе раўняецца $235, а ў канцы мінулага году Ўкраіне шантажом было "прапанавана" плаціць па $230. Тады канфлікт паміж Масквой і Кіевам удалося ўрэгуляваць, і сярэдні кошт газу, што пастаўляецца ва Ўкраіну з Расеі й Туркмэністану складае $110.

Беларусь, паводле экспэртаў, ня мае магчымасьці транспартаваць газ Туркмэністану, таму новыя кошты будуць залежаць ад вынікаў зьдзелкі па набыцьці "Газпромам" 50% акцыяў "Белтрансгазу", які валодае трубаправодамі, па якіх блакітнае паліва паступае праз Беларусь у Заходнюю Эўропу. Беларускі бок павінен выказаць свае прапановы да 30 красавіка. А. Лукашэнка, які з 21 сакавіка цягам двух тыдняў не зьяўляўся на тэлеэкранах, ніяк не камэнтаваў падзеі.

Калі кошты на газ узрастуць, гэта моцна ўдарыць па беларускай эканоміцы. І таму цяпер становіцца ясным, чаму А. Лукашэнка так сьпяшаўся правесьці датэрмінова прэзыдэнцкія выбары.

***Уласны карэспандэнт***

# Беларусь змагаецца

***Заканчэньне з бачыны 1***

ня двух прамаскоўскіх квазіапазыцыйных лідэраў (з вызначэньнем плянак актыўнасьці) дакладна супадае з маскоўскімі распрацоўкамі, і праводзілася амаль непрыхавана з адкрытымі вызначэньнямі і пастаноўкаю задачаў. Тут Маскве нельга адмовіць у акупацыйным прафэсыяналізме. Прадбачачы беларускі ўздым, яны заранёў падрыхтавалі падстаўныя фігуры і стараліся пераняць кантроль над працэсамі.

Але ня ўсё ў іх атрымалася і, я мяркую, не атрымаецца. Беларуская сіла будзе ўзрастаць. Небясьпека, аднак, у маскоўскай каардынацыі з Захадам. Нельга забываць ні Ганса Віка, ні супрацоўніцтва Масквы з АБСЭ, калі быў патоплены ў Беларусі змагарны ўздым 1996 году і сапсаванае, разбэшчанае падачкамі цэлае пакаленьне актыўнай моладзі. Цяпер у беларусаў ёсьць магчымасьць падсумаваць горкі вопыт і зрабіць высновы.

На мой погляд, Казулін і Мілінкевіч свае задачы ўжо выканалі. Баюся, што Казуліна Масква ўжо кінула як адпрацаваны матар'ял, і яго чакае лёс Марыніча ды Чыгіра (а, магчыма, і Карпенкі). Зь Мілінкевічам яшчэ крыху пагуляюць. Гэта чалавек гумовы і больш прыдатны на ролю.

Шчыра кажучы, сумна глядзець на ўсіх гэтых людзей, якія нічаму ня вучацца ў сваіх амбіцыях пагуляць з Расеяй і рабскіх думачках ашукаць Маскву. У выніку арышты, камэры, інфаркты, інсульты, магіла і... ніхто нічога не разумее, бо сьляпым не дадзена. Некалі ў Беларусь пагуляць з Расеяй, пасупрацоўнічаць нібыта ў будаўніцтве камунізму вярнулася цэлае пакаленьне рэвалюцыянэраў ад Браніслава Тарашкевіча да Сяргея Бусла. Вядома чым гэта скончылася. І толькі адзінкі, паміраючы ў ГУЛАГу, білі сябе ў лоб: "дурні мы дурні, паверылі Маскве, так нам і трэба". Высноваў з гэтага, як паказвае гісторыя, не зрабіў ніхто. Цяпер настаў час гумовых псэўдаапазыцыянэраў. Але тая-ж дарожка.

Імпэрскую Расею можна перамагчы толькі ў адкрытым баі сіла на сілу. Таму ня толькі Грузія і Балтыя сталі вольнымі, але будзе такой і малая Чачэнія. Аднак ніколі волі ня йімуць халуі, ніколі воля не здабываецца хітрасьцю, прыстасавальніцтвам і выгадай, а толькі адкрытым змаганьнем.

Цяпер усяму нашаму Вызвольнаму руху трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на распаўсюджваньне нацыянальнай асьветы. Нацыянальна разьвіты сьведамы чалавек сам арыентуецца ў абставінах, яму ня трэба за каждым разам тлумачыць што добра, а што дрэнна. Мы бачым, што палітыка прамаскоўскага рэжыму накіраваная на вынішчэньне культуры і самаіснасьці беларускай нацыі. Гэтаму трэба супраціўляцца палітычна асэнсавана сродкамі культуры.

Пуцінская групоўка ў Расеі плянуе затрымаць уладу ў сваіх руках шляхам стварэньня фармальнасьці – іншага суб'екту дзяржаўнага існаваньня. Гэта дало-б магчымасьць Пуціну выбірацца далей на прэзыдэнта ўжо новай фармальнасьці. Беларусь выбралі ахвярай гэтай імпэрскай палітыкі. Фармальнасьць заключаецца ў далучэньні Беларусі да Расеі.

Лубянка, відаць, будзе йсьці напралом. Інакш яны ня ўмеюць. (Мікраінсульт Лукашэнкі пасьля выбараў хутчэй за ўсё справа іхных рук). Не сумняваюся, што наступаюць трывожныя часы. Але Беларусь зьмяняецца. Ад хуткасьці гэтых пераменаў і ад нашай палітычна-асьветніцкай працы таксама будзе залежыць наша народная будучыня".

***9 красавіка 2006 г.*** ***Зянон ПАЗЬНЯК***

# Пасьля выбараў

Хоць падзеі, якія адбыліся ў Беларусі 19-га сакавіка, выбарамі назваць цяжка, аднак гэта быў важны этап у найнавейшай гісторыі краіны. Цяпер застаецца пытаньне: што далей?

З Масквы ўжо паведамілі, што кошты на газ, які прыходзіць у Беларусь з Расеі, неўзабаве падымуцца, магчыма ў некалькі разоў, збліжаючыся да рынкавых. Гэта можа вельмі хутка закончыць той "эканамічны цуд", якім хваліўся беларускі рэжым апошнімі гадамі. Лукашэнку тады давядзецца шукаць выйсьця, каб пазьбегуць краху і застацца пры ўладзе.

Прадбачваюцца тры магчымыя варыянты: першы – Лукашэнку ўдасца ўгаварыць Расею трымаць далей ільготныя кошты на энэрганосьбіты, абяцаючы нешта ў будучыні; другі – Лукашэнка падпісвае новае пагадненьне адносна саюзу, набліжаючы Беларусь яшчэ на адзін крок да страты незалежнасьці; трэці – хоць у роспачы, аднак ён прымушаны адвярнуцца ад наўмольнай Расеі і павярнуцца да Эўропы. Гэты апошні варыянт, бадай, найбольш пэрспэктыўны з эканамічнага боку, бо апошнім часам як раз з Эўропаю гандлёвыя дачыненьні рабіліся больш прыбытковымі. І на гэта як раз Лукашэнка разьлічваў, заяўляючы яшчэ перад выбарамі: "Мне здаецца, пройдзе час, і ўрэгулюецца і гэтае пытаньне. Паладзім мы свае нармальныя адносіны і з Амэрыкай, і з Эўропай. Я ў гэтым зусім не сумняюся. Як толькі закончацца нашыя палітычныя падзеі, прэзыдэнцкія выбары, я думаю, мы ўсё зарганізуем."

Аднак усё, што адбылося – празьмернае ашуканства падчас выбараў і рэпрэсіі падчас перадвыбарчай кампаніі ды брутальныя разгоны і арышты пасьля выбараў – гэтак абурылі заходні сьвет, што нармалізаваць адносіны будзе вельмі цяжка. Лукашэнку давядзецца пачаць праводзіць "нармалізацыю" ўнутры Беларусі. Ад яго будуць дамагацца ўвядзеньня нейкай дэмакратычнай рэформы, даць апазыцыі магчымасьць карыстацца сродкамі масавай інфармацыі і арганізаваць палітычную і грамадзкую дзейнасьць. Давядзецца яму загадаць судзьдзям паводзіць сябе прыстойней ды дазволіць правесьці наступныя мясцовыя і парлямэнцкія выбары адкрыцей і свабадней.

І Лукашэнка можа на такое часткова пайсьці, калі ён запраўды верыць, што больш 80% насельніцтва яго надзвычай любяць, і што ён здолее ў чарговы раз красамоўна пераканаць "свой народ" новымі абяцаньнямі аб дабрабыце і стабільнасьці. Такім чынам, ён палічыць, што такімі захадамі ён здолее перацягнуць на свой бок малодшае пакаленьне, якое дамагаецца цяпер свабоды, бо ня ведама, як доўга можна будзе дэмаграфічна апірацца на падтрымку вэтэранаў і паслухмяных пэнсіянераў. А ў гісторыі ўжо былі такія выпадкі, калі дыктатары гэтак паверылі сваёй прапаганьдзе аб народнай любові да іх, што дазволялі ўвесьці пэўную адлігу ці лібэралізацыю.

А тут чытач напэўна падумае, што папярэдні абзац – гэта фантастыка, якая ніколі ня зьдзейсьніцца. Гледзячы на сытуацыю рэальна, трэба з такой ацэнкай пагадзіцца, але тады давядзецца беларускаму народу, або хоць адважнейшай частцы яго, шукаць новыя спосабы змаганьня за свабоду ды ўтрыманьня незалежнасьці краіны. Ды толькі пры аказаньні моцнага ўнутранага супраціву і сапраўднага адзінства могуць дэмакратычныя сілы разьлічваць на адэкватную і доўгатрывалую замежную дапамогу. Кандыдат дэмакратычных сілаў на прэзыдэнта Аляксандар Мілінкевіч ужо заклікаў да стварэньня шырокага Народнага Руху, які здолеў-бы працягваць змаганьне. Але адразу паўстае пытаньне, хто мае быць лідэрам гэткага Руху. Вакол гэтага пытаньня гатовыя пачацца спрэчкі паміж прадстаўнікамі частк аў апазыцыі аж да расколу. Ужо адгукнуўся Анатоль Лябедзька, які ў час выбараў адбываў 15-дзённае пакараньне ў турме. Ён заклікаў да стварэньня стратэгіі аб'яднаньня і адказнасьці ў акцыі Ўсенароднага Руху ў павыбарчым пэрыядзе, што дасюль не было зроблена. Паколькі можна спадзявацца, што існуючыя партыі й недзяржаўныя арганізацыі могуць быць ліквідаваныя, такі Рух павінен ахапіць шырэйшае грамадзтва, магчыма асноўваючыся на падпольных прынцыпах "Салідарнасьці" 1980-х гадоў у Польшчы. Дазволю сабе далучыцца да гэткага абмеркаваньня стратэгіі, прапануючы некаторыя думкі.

1. Кіруючы ворган Народнага Руху – тройка лідэраў, якія чаргуюцца на першым месцы, штонекалькі месяцаў, падобна як гэта робіць Эўразьвяз із пасадаю прэзыдэнта.

2. Дапамагае яму ценявы кабінэт з 9-12 аўтарытэтных асобаў, спэцыялістаў, уключна з прадстаўнікамі маладзёвых дэманстрацыяў. Патрэбная сувязь зь лідэрамі дыяспары і Радаю БНР, якія гатовыя дапамагаць у замежных кантактах.

3. Прадстаўнічую ролю і адказнасьць за сувязь з грамадзтвам мае Рада Прадстаўнікоў, якая складаецца з 30-40 асобаў, геаграфічна разьмешчаных па ўсёй краіне. Гэта павінны быць цяперашнія мясцовыя дэпутаты, кандыдаты, якія сябе добра паказалі на мінулых выбарах, і актыўныя да гэтага часу, былыя дэпутаты Вярхоўнага Савету.

4. Кожны зь іх бярэ на сябе адказнасьць зацікавіць ня меней 100 актывістаў ў сваёй акрузе дзеля рыхтаваньня і распаўсюджваньня інфармацыі. Яны падзеленыя на малыя гурткі, якія дзейнічаюць незалежна адзін ад аднаго.

Магчыма, што нават лепшая тэхналёгія ўжо зацьверджаная і будзе праводзіцца, ды апазыцыя не патрабуе парадаў збоку. На заканчэньне, аднак, адчуваецца патрэба падкрэсьліць, што апазыцыйныя сілы павінны здолець стварыць працаздольныя і прадстаўнічыя структуры, ды, што галоўна, каб яны ўтрымалі еднасьць паміж сабою, так як было зроблена ў большай меры падчас перадвыбарчай кампаніі.

***Незалежнік***

# З гісторыі беларусаў Канады

## Дзейнасьць беларусаў у Ашаве


The Oshawa Times
OSHAWA, ONTARIO, THURSDAY, MARCH 25, 1965

*У офісе мэра сьлева направа: Антон Маркевіч, мэр Ашавы Лыман Гіфард, Лі Мацко, Георгі Харэвіч, Віктар Харэвіч.*

У горад Ашава (Oshawa), насельніцтва каля 150 000 чалавек, прыбыло шмат імігрантаў пасьляваеннай хвалі, у тым ліку і беларусаў. Гэты горад славіўся тым, што была там добра развітая прамысловасьць, было шмат працы, дый заробкі былі добрыя.

З часам нашыя суродзічы пачалі арганізоўвацца і зьвязаліся зь беларускімі арганізацыямі ў Таронта, ЗБК і парафіяй Сьв. Кірылы Тураўскага. Яны заснавалі сваю арганізацыю Беларускую Самапомач у Ашаве, якая тады вельмі славілася сваёй актыўнасьцю сярод мясцовых беларусаў. Актыўнасьць была надзвычайная, і посьпехі таксама былі значныя. Шмат працы ў грамадзкую дзейнасьць укладалі М. Кашагуб, Г. Харэвіч, В. Харэвіч, Н. Богдан, А. Тарасэвіч, Н. Бахар, А. Харавец, Б. Лішчонак, А. Жлукцік, М. Хомчык, У. Пунтус ды іншыя.

Ашаўцы, па прыкладу тарантаўцаў, пастанавілі дабіцца дазволу гарадзкіх уладаў вывешваць наш бел-чырвона-белы сьцяг над гарадзкой ратушай на ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ад беларускай грамады сп. сп. А. Маркевіч і Г. Харавец зьвярнуліся да мэра гораду Лымана Гіфарда са сваёю просьбаю, і неўзабаве мэр і гарадзкая ўправа далі дазвол. Так 25 сакавіка 1965 году наш сьцяг быў узьняты побач з канадыйскім над гарадзкой ратушай. Гэта быў вялікі посьпех нашай грамады ў Ашаве. У той самы дзень мясцовая газэта зьмясьціла з гэтай нагоды вялікі артыкул на першай старонцы.

**Антон МАРКЕВІЧ**



*На здымку аўтара: Б. Лісшчонак, Г. Харавец, Н. Богдан, В. Харавец.*

## Памятайма пра Чарнобыль

Сёлета 26 красавіка спаўняецца 20 гадоў з часу чарнобыльскай экалягічнай катастрофы - найгоршай ў гісторыі чалавецтва. Яна мела жахлівыя наступствы для Беларусі. Бальшыня радыяцыйных ападкаў, што ўтварыліся дзеля пажару на Чарнобыльскай атамнай станцыі, выпала на тэрыторыю Беларусі. У выніку амаль чвэрць абшару краіны стала забруджаная радыёнуклідамі. Мясцовыя кіраўнікі Савецкай Беларусі хавалі праўду ад насельніцтва, заніжалі маштаб трагедыі. Яны нейкі час нават адмаўляліся ад дапамогі з цэнтру, спадзеючыся на ордэны й пасады за "ліквідацыю наступстваў" уласнымі сіламі. Хутка стала ясна, што "ліквідаваць" наступствы атамнай аварыі немагчыма і з дапамогай усёй савецкай сыстэмы. Пачалося высяленьне людзей з найбольш забруджаных раёнаў, сталі будавацца пасёлкі для перасяленцаў.

Аднак усё рабілася па савецкіх звычках, аўральна, непрадумана. Неўзабаве стала ясна, што жыцьцё на новых месцах не задавальняе вялікую колькасьць перасяленцаў. Замест сплянаванага разьмеркаваньня новых паселішчаў для перасяленцаў па ўсёй краіне, там дзе не хапала працоўных рук, яны накіроўваліся ў мікрараёны вялікіх гарадоў, перш за ўсё ў Малінаўку ў Менску. Шмат дамоў для іх аказаліся збудаваныя на землях таксама забруджаных. Пачалося вяртаньне некаторых людзей у чарнобыльскую зону.

Пасьля зьнікненьня СССР Беларусь аказалася сам-насам з чарнобыльскай бядою. Тым не менш была прынятая Чарнобыльская праграма, працаваў Камітэт па Чарнобылі пры Саўміне Беларусі. Пацярпелым ад атамнай аварыі й ліквідатарам былі дадзеныя дапамога й ільготы.

З прыходам да ўлады Лукашэнкі пачалося скарачэньне фінансаваньня Чарнобыльскай праграмы. Пад акампанэмент прамоваў Лукашэнкі пра клопат аб "чарнобыльцах" ідзе рэгулярная дэзынфармацыя пра тое, што быццам Чарнобыль "спыніўся", на забруджаных тэрыторыях ужо бясьпечна жыць, брудныя землі даюць чыстую прадукцыю, чыстае малако і мяса. Штогод Лукашэнка робіць прапагандовыя паездкі на дзень-два ў забруджаныя раёны, дзе распавядае пра цудоўныя дасягненьні рэжыму і дэманстратыўна спажывае быццам выгадаваную там прадукцыю. Маўляў, "усё нармальна".

Аднак Лукашэнка вяртаецца ў Менск, а людзі застаюцца на забруджаных землях яшчэ 364 дзён да наступнага візыту "галоўнага клапатліўца".

Між тым у Менску Лукашэнка прымае дэкрэты і загады, што яшчэ больш прыціскаюць і без таго прыгнечаных лёсам жыхароў забруджаных земляў. Адвольна мяняюцца катэгорыі населеных пунктаў, якія росчыркам у загадзе абвяшчаюцца "чыстымі", а жыхары пазбаўляюцца ільготаў. Спыняецца гуманітарная дапамога з-за мяжы для пацярпелых раёнаў, незаконна канфіскуюцца рэчы і транспарт, набытыя за грошы людзей добрай волі за мяжой. Дзяцей з забруджаных тэрыторыяў, якіх раней прымалі ў сябе за сваё-ж сродкі, аплочвалі білеты добрыя людзі ў Эўропе, Амэрыцы, Японіі, Аўстраліі, — стала забаронена вывозіць на аздараўленьне за мяжу. І ўсё гэта суправаджаецца гучнымі заявамі аб тым, як шчасьліва і заможна жывецца ў Беларусі, які парадак і дабрабыт наўкола. А ў гэты час у шпіталях, у анкалягічных аддзяленьнях, паміраюць ад раку шчытападобнай залозы дзеці, якія нарадзіліся шмат год пасьля Чарнобылю.

Таму Беларусь і яе жыхары, пацярпеўшыя ад Чарнобыля, патрабуюць дапамогі. Яны патрабуюць увагі ўсяго сьвету. Але перш за ўсё — увагі, салідарнасьці й падтрымкі ад сваіх суайчыньнікаў і землякоў. Ад нас з вамі.

**Зьміцер ПАРЭЦКІ**

## Галадоўка Зьміцера Піменава

Старшыня Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня (Бэльгія) Зьміцер Піменаў пачаў 28 сакавіка ў цэнтры Брусэлю галадоўку ў знак пратэсту супраць палітычных рэпрэсіяў у Беларусі. Ён прыняў такое рашэньне пасьля таго, як даведаўся аб затрыманьнях у Беларусі ў часе акцыяў пратэсту супраць фальсыфікацыі вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў. "Я быў вельмі абураны тым, што пасадзілі столькі людзей. Мой пікет, мая галадоўка – гэта знак салідарнасьці з тымі, хто цяпер сядзіць у турмах."

Старшыня Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня знаходзіцца на плошчы імя Робэрта Шумана – там месьцяцца офісы галоўных эўразьвязаўскіх структураў. Ён мае намер трымаць галадоўку да дня інаўгурацыі А. Лукашэнкі.

Сп. Піменаў кажа, што да яго плянуюць далучыцца некалькі бэльгійцаў – сяброў адной з палітычных партыяў, якія таксама лічаць, што пададзеныя ўладамі вынікі выбараў у Беларусі не адлюстроўваюць волі беларускага народу.

## Рэзалюцыя Эўразьвязу

Рэзалюцыя Эўрапарлямэнту "Аб сытуацыі ў Беларусі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 19 сакавіка 2006 году" была ўхваленая 6 красавіка абсалютнаю бальшынёй дэпутатаў, 524 галасы "за" і 17 "супраць". Эўрапарлямэнт асудзіў несумленныя прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі ды заявіў, што рэжым А. Лукашэнкі ня мае ніякай легітымнасьці й застаецца апошняй дыктатурай у Эўропе.

Рэзалюцыя заклікае да правядзеньня паўторных выбараў прэзыдэнта й рэкамэндуе Радзе Эўразьвязу пашырыць кола беларускіх чыноўнікаў, супраць якіх будуць уведзены візавыя ды іншыя санкцыі.

Дэпутаты Эўрапарлямэнту выказалі салідарнасьць з А. Мілінкевічам, А. Казуліным і аб'яднанымі дэмакратычнымі сіламі Беларусі й заклікалі кіраўніцтва Эўразьвязу пашырыць падтрымку грамадзянскай супольнасьці Беларусі.

Сярод іншага, Эўрапейскі парлямэнт вітаў рашэньне Рады Эўразьвязу ўнесьці А. Лукашэнку ў сьпіс асоб, у дачыненьні да якіх дзейнічаюць візавыя забароны, і заклікаў пашырыць гэты сьпіс за кошт чыноўнікаў мясцовых і цэнтральных органаў улады, якія былі ўцягнуты ў парушэньні правоў чалавека й палітычных свабод цягам выбарчай кампаніі, а таксама прапанаваў замарозіць замежныя рахункі і ўласнасьць Лукашэнкі й да яго набліжаных. Адначасова Эўрапарлямэнт заклікаў Раду Эўразьвязу аблегчыць візавы рэжым для прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці Беларусі.

Дэлегацыі эўрапейскіх парлямэнтаў будуць таксама ў сваіх кантактах з расейцамі ўздымаць пытаньне сытуацыі ў Беларусі.

Акрамя таго, Эўрапарлямэнт заклікаў ААН, Раду Эўропы й краіны Эўразьвязу стварыць міжнародную камісію па дасьледаваньні зьнікненьняў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага й Зьмітра Завадзкага.

Эўрапарлямэнт таксама запатрабаваў ад беларускіх уладаў вызваліць лідэраў апазыцыі, дэманстрантаў, журналістаў, замежных грамадзянаў, якія былі арыштаваныя цягам кампаніі пратэстаў, апублікаваць сьпіс усіх арыштаваных, умовы іх затрыманьня й абвінавачаньні, вылучаныя супраць іх, спыніць зьбіцьцё й катаваньні палітычных вязьняў.

**Радыё Свабода**



# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org № 4 (483)


# Сакавіцкі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 12 сакавіка адбыўся чарговы, сакавіцкі, сход аддзелу БАЗА. Напачатку старшыня аддзелу Віталь Зайка распавёў пра падзеі апошняга месяцу ў Беларусі, пра надыходзячыя прэзыдэнцкія выбары 19 сакавіка й пра маючую адбыцца акцыю салідарнасьці за дэмакратыю ў Беларусі.

Затым з гутаркай пра раньнюю гісторыю беларускай грамады ў Амэрыцы выступіў сп. Антон Шукелойць, Старшыня Галоўнай Управы БАЗА. Гаворачы пра пачаткі беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы сп. Шукелойць адзначыў, што кантакты паміж беларусамі й амэрыканцамі пачаліся яшчэ ў каляніяльны пэрыяд, XVI-XVIII стагодзьдзях. Сувязі з Амэрыкай, іміграцыя зь беларускіх земляў у Амэрыку патрабуюць далейшых досьледаў, але ўжо сёньня можна прывесьці шмат цікавых прыкладаў. Капітан Джон Сьміт быў першым губэрнатарам калёніі Вірджынія з 1608 году. За пяць год перад тым, ён наведаў беларускія землі, старабеларускую дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае. У сваёй кнізе "Сапраўдныя падарожжы Капітана Сьміта", выдадзенай у Лёндане ў 1629 годзе, аўтар узгадвае сваё знаходжаньне" ў Рэчыцы каля Дняпра, у межах Літвы". Ён таксама згадвае свой пошук сьпэцыялістаў у апрацоўцы канопляў, ільну і смалы і адзначае, што "людзі з Полацку, якія ўжо ёсьць у Вірджыніі, паказалі сябе надзвычай добра". У старых дакумэнтах (1610 год) згадваецца лекар Лаўрэн Багун зь Беластоку. Беларускага паходжаньня верагодна быў і настаўнік лаціны Аляксандар Куртыюс (Курчэўскі), пра якога вядома, што ён прыехаў у калёніі ў 1659 годзе і навучаў лаціны ў Новым Амстэрдаме (сёнешні Нью Ёрк), а перад тым быў настаўнікам у Полацку.

Цікавай старонкай гісторыі зьяўляецца дзейнасьць у Амэрыцы полацкіх езуітаў. Калі Папа Рымскі забараніў дзейнасьць Таварыства Ісуса (ордэна езуітаў) у канцы 18 стагодзьдзя, расейская царыца Кацярына не дазволіла, каб забарона дзейла ў межах новадалучаных да Расейскай імпэрыі беларускіх земляў, у тым ліку ў Полацку, у беларускай "правінцыі" Таварыства Ісуса. Таму езуіты, якія пазьней іміграваліі й закладалі свае структуры ў Амэрыцы, фармальна падпарадкоўваліся свайму кіраўніцтву ў Полацку (тады цэнтар ордэну быў у Расейскай імпэрыі), і амэрыканскія езуіты трапілі пад юрысдыкцыю і былі часткаю "Беларускай Правінцыі Таварыства Ісуса". Сярод іх актыўнымі былі айцы Баніфацы Крукоўскі, Норбэрт Корсак, Францішак Дзержынскі. Айцец Дзержынскі, родам з Воршы, быў прафэсарам тэалёгіі ў Полацкай акадэміі айцоў езуітаў. Пасьля іміграцыі ў Амэрыку а. Дзеружынскі спрычыніўся да разьвіцьця адукацыі й да заснаваньня Джорджтаўнскага ўнівэрсытэту.

Безумоўна, найбольш вядомым сынам беларускай зямлі ў Амэрыцы зьяўляецца Андрэй Тадэвуш Бонавэнтура Касьцюшка (1746-1817), герой трох народаў і актыўны ўдзельнік вайны за незалежнасьць Злучаных Штатаў. Прыехаўшы ў Амэрыку дабраахвотнікам у 1776 годзе, Касьцюшка паказаў свой вайсковы талент у бітве пры Саратозе ў 1777 годзе. Вярнуўшыся на бацькаўшчыну брыгадным генэралам, Касьцюшка браў удзел у вайне 1792 году супраць Расеі й Таргавіцкай канфэдэрацыі. Падчас паўстаньня супраць Расеі 1794 году ён стаў галоўнакамандуючым узброеных сілаў і быў паранены каля Мацэёвіцаў, трапіў у расейскі палон. Пасьля вызваленьня імпэратарам Паўлам у 1796 годзе ён два гады жыў у ЗША, потым у Францыі, а памёр у Швайцарыі. Паўсюль Касьцюшку ведаюць як паляка, але ён нарадзіўся ў Беларусі й паходзіць з старажытнага беларускага шляхецкага роду, і беларускія аспэкты ягонага жыцьця амаль не дасьледваныя.

З іншых выдатных асобаў беларускага паходжаньня ў Амэрыцы варта адзначыць Генрыка Дмахоўскага, вядомага пад імём Генры Саўндэрс, скульптара і мастака, удзельніка паўстаньняў 1831 і 1863 гадоў. Беларускім шляхціцам з Магілёўскай губэрні быў першы прэзыдэнт Сэнату Гаваяў Мікалай Судзілоўскі-Русель, вядомы рэвалюцыянэр-народнік і навуковец.

Сп. Шукелойць назваў таксама шэраг асобаў навейшага часу, у тым ліку сп. сп. Норыка, Русака, Рагулю, Вярбіцкага, якія зрабілі ўнёсак і дасягнулі вядомасьці ў розных грамадзкіх і навуковых галінах, але падрабязна пра гэта будзе ў наступных гутарках. Сп. Шукелойць таксама адзначыў помнікі славутым сынам беларускай зямлі, у тым ліку Касьцюшку, Ягайлу (у Сэнтрал Парку, застаўся пасьля выставы 1939 году), касьцёл Сьв. Язэпа ў Філядэльфіі, дзе пачынаў сваю дзейнасьць а. Ф. Дзеружынскі, магілы беларускіх езуітаў у штаце Мэрыленд.

Затым сп. Шукелойць паінфармаваў пра гісторыю і кірункі працы арганізацыяў моладзі пры БАЗА. Сваіх чартараў яны мелі, і былі на чартары БАЗА. Арганізацыі актыўна прадстаўлялі беларускую моладзь на розных імпрэзах, ладзілі канцэрты, вечарыны. На адным з канцэртаў узышліа зорка знакамітага сьпевака Багдана Андрусышына (Данчыка). У час старшынства спн. Раі Станкевіч быў створаны Фонд Любачкі. Беларуская моладзь потым зьмяніла старэйшае пакаленьне ў грамадзкіх арганізацыях.

Спн. Алла Орса-Романо коратка распавяла пра дзейнасьць танцавальнага ансамблю "Васілёк", які быў створаны беларускай моладзьдзю. "Васілёк" шмат выступаў у Амэрыцы і наведаў з гастролямі Беларусь.

Сп. Вячка Станкевіч распавёў пра акцыі 16 дня кожнага месяцу ў Вашынгтоне.

Сп. Барыс Данілюк запрасіў вернікаў на Вялікоднае набажэнства 23 красавіка.

***Віталь ЗАЙКА***

## Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| В. Балашчэнка | .30 | Ю. Лапіцкі | .30 |
| А. Дзьмітрук | .30 | Дз. Мажэйка | .30 |
| З. Ільлюк | .30 | З. Маўчан | .30 |
| З. Капцоў | .30 | Э. Пяньkоўская | .30 |
| К. Квяткевіч | .30 | Сьвятлана Пятровіч | .30 |
| М. Клакоцкі | .30 | Сяргей. Пятровіч | .30 |
| Н. Крапіўніцкая | .30 | У. Рыжыкаў | .30 |
| В. Кузьменка | .30 | Л. Сагановіч | .30 |
| А. Лабовіч | .30 | М. Сагановіч | .30 |
| К. Лазунова | .30 | | |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association*.**

## Чарнобыльскі шлях - 26 красавіка

Нью Ёрскі аддзел БАЗА ладзіць мітынг і марш, прысьвечаныя 20-й гадавіне Чарнобыльскай аварыі і супраць антынароднай палітыкі Лукашэнкі ў Беларусі. Мітынг пачнецца а 4-й гадз. папаўдні каля будынку ААН на 1 Авэню пры 43-й вул. на Мангэтане. Затым удзельнікі мітынгу пройдуць маршам да консуляту Беларусі ў Нью Ёрку (3-я Авэню пры 44-й вул.) і да прадстаўніцтва Беларусі пры ААН (67-я вул., паміж 3-й і Лэксынгтан Авэню). Акцыя будзе доўжыцца да 6 гадз. вечара.

Запрашаем усіх неабыякавых да народная бяды людзей.

## Увага! Наступны справаздачна-выбарчы сход

нью ёркскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **21 траўня 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага па адрасу: ***401 Atlantic Avenue ў Брукліне***

Будуць заслуханыя справаздачы старой управы аддзелу і абраная новая на наступны год. Сход пачынаецца апаўдні. Просьба ўсім сябрам аддзелу прыняць удзел.

Парафіяльная рада і сястрыцтва Катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне запрашаюць Вас на

## Банкет і Баль

з нагоды Дня Маці ў суботу 13 траўня 2006 году.

Пачатак а 8-й гадзіне вечара. Будзе граць аркестра сям'і Казакоў. Вечаровыя строі пажаданыя.

Загадзя купленыя квіткі каштуюць $50, пры ўваходзе $60.

Калі ласка, купляйце квіткі загадзя ў суботы ці нядзелі ў царкве. Ці дасылайце чэк на кошт квіткоў поштаю на адрас: ***St.Cyril`s of Turau Cathedral, 401 Atlantic Ave, Brooklyn, NY 11217***

# За свабодныя выбары

## ш. Аёва, ЗША

Напярэдадні парлямэнцкіх выбараў у Беларусі і ў дзень салідарнасьці з зьніклымі й паняволенымі рэжымам Лукашэнкі студэнты ўнівэрсытэту Уэвэрлі ў штаце Айова, ЗША, зладзілі 16 сакавіка акцыю падтрымкі й пратэсту. Яны напісалі лёзунгі падтрымкі дэмакратыі на кавалках джынсавай тканіны так, як гэта робяць удзельнікі маладзёвых акцыяў пратэсту ў Менску і ў шмат якіх іншых гарадох сьвету. Амэрыканскія студэнты з энтузіязмам удзельнічалі ў гэтым праекце, які даў ім магчымасьць выказаць свой пратэст. Іхняя ўвага да палітычнай сытуацыі ў Беларусі дапамагла студэнтам паказаць сваю грамадзкую актыўнасьць і пашырыла іхныя веды аб гэтай частцы сьвету.

Студэнты ўжо нямала чулі пра Беларусь, дзякуючы ўрокам прафэсара этнамузыколяга Паўліны Сурвіллы, якая спэцыялізуецца на беларускай рок-музыцы і поп-культуры. У дадатак да напісаных лёзунгаў студэнты выкарысталі бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоня – забароненыя сёньня ў Беларусі дзяржаўныя сымболі. Чэлсі Спэнглер з дапамогаю Мэган Гіл і Лоўры Мідлкэмп расмалявала свой твар колерам беларускага сьцяга і зрабіла адбітак на майцы, назваўшы свой твор "Тварам свабоды".



Увечары студэнты ў знак салідарнасьці з паняволенымі ў Беларусі запалілі сьвечкі ў адным з студэнцкіх інтэрнатаў Вартбург Каледжу.



**П. СУРВІЛЛА**

## Атава, Канада




Напярэдадні вялікага беларускага сьвята, дня абвяшчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, беларусы Атавы й Манрэаля разам з прадстаўнікамі ўкраінскай дыяспары правялі 16 сакавіка дэманстрацыю перад амбасадай Рэспублікі Беларусь у сталіцы Канады.

Разам зь беларусамі ўсяго сьвету яны запалілі у гэты дзень сьвечкі ў памяць зьніклых палітычных дзеячоў і ў гонар беларускіх герояў – змагароў за свабодную Беларусь і падтрымалі гэтым нашых суродзічаў перад прэзыдэнцкімі выбарамі.

На мітынгу пад бел-чырвона-белымі і жоўта-блакітным сьцягамі была выказаная ўпэўненасьць, што, рана ці позна, але беларускі народ абавязкова будзе вольным. Дэманстранты патрабавалі ад беларускіх уладаў свабодных і празрыстых прэзыдэнцкіх выбараў, вызваленьня палітычных вязьняў у Беларусі.

На мітынгу з прамоваю выступіла Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла. Канадыйцам, якія цікавіліся падзеяй, раздавалі ўлёткі з інфармацыяй аб сытуацыі ў Беларусі.

**П. МУРЗЁНАК**

## Брусэль, Бэльгія

Ля будынку Эўрапарляманту актывісты Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня зладзілі 20 сакавіка пікет. У ім узялі ўдзел найменш 20 чалавек. Беларусы выказалі незадавальненьне фальсыфікацыяй вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі. Плякаты з заклікамі супраць узурпацыі ўлады рэжымам Лукашэнкі бачылі сотні грамадзянаў Эўразьвязу, у тым ліку і дэпутаты Эўрапарляманту, якія выказвалі салідарнасьць зь беларускім народам.

Варта зазначыць, што ў той час адбывалася прэс-канферэнцыя па беларускаму пытаньню, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі беларускай дыяспары.

Такім чынам, Беларуска-Эўрапейскае Задзіночаньне прыцягнула ўвагу Эўрапарляманту да таго, што выбары ў Беларусі адбыліся недэмакратычна, і іх нельга прызнаць легітымнымі.

**www.unija.info**



## Чыкага, ЗША



Ў Чыкага 16 сакавіка прайшоў пікет, арганізаваны амэрыканскімі прыхільнікамі дэмакратычных зьменаў у Беларусі на чале з Джэймсам Мэллінсанам – тэатральным мэнаджэрам, мастацтвазнаўцам, актывістам руху за правы чалавека. Акцыя пачалася апаўдні перад будынкам губэрнатара штату Ілінойс. У пікеце ўзялі ўдзел прадстаўнікі асацыяцыі "Землякі" ды іншых арганізацыяў Чыкага.

Удзельнікі пікету раздавалі зацікаўленым мінакам ўлёткі, у якіх ўзгадвалася пра акцыі салідарнасьці ў 16-ты дзень кожнага месяца ў Беларусі й замежжы, а таксама пра зьнікненьне ў Беларусі палітыкаў і журналістаў, пра перасьлед апазіцыі, закрыцьцё незалежных выданьняў, парушэньні правоў чалавека, свабоды слова і рэлігіі. Выказвалася таксама меркаваньне, што вынікі прэзыдэнцкіх выбараў 19 сакавіка будуць сфальсыфікаваныя.

**В. НІКІФАРОВІЧ**

## Вільня, Летува

Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў прайшоў пікет у Вільні ў падтрымку дэмакратычных сілаў у Беларусі, за свабодныя і адкрытыя выбары. Пікет, як і іншыя акцыі ў падтрымку беларускай апазыцыі, якія там адбываюцца, быў зарганізаваны Таварыствам Беларускай Культуры ў Летуве, якім кіруе сп. Хведар Нюнька.




## Прага, Чэхія

Пачынаючы за тыдзень і яшчэ доўга пасьля 19 сакавіка найгалоўнейшай замежнай тэмай у газэтах Чэхіі была беларуская. У дзень выбараў першыя палосы былі адведзеныя гэтай падзеі. Акцыі 25 сакавіка ў Менску чэскія сродкі прысьвяцілі больш увагі, чым парлямэнцкім выбарам ва Ўкраіне. Складваецца ўражаньне, што чэхі валодаюць праўдзівай інфармацыяй у большай ступені, чым грамадзяне Беларусі.

Галоўнай "зоркай" стаў, безумоўна, Ян Рыбарж, карэспандэнт газэты "Dnes", які асьвятляў падзеі зь Беларусі пад час выбараў і быў зьбіты "невядомымі" у Менску. Ян Рыбарж са сьлядамі менскай "гасьціннасьці" на твары штодня выступаў па радыё і па тэлебачаньні. Распавядаў аб сваіх ўражаньнях і параўноўваў іх з падзеямі пражскай аксамітанай рэвалюцыі.

Вядомы сваімі негатыўнымі адносінамі да рэжыму Лукашэнкі міністар замежных справаў ЧР Цырыл Свобода ў гэтыя дні быў катэгарычны і заклікаў Эўразьвяз узмацніць ціск на "апошняга дыктатара" і больш дапамагаць простым беларусам. Міністэрства замежных справаў ЧР паведаміла, што яно выдзяляе 20 мільёнаў кронаў (660 тысячаў эўра) для падтрымкі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Грошы накіруюць на медычныя патрэбы, на падтрымку незалежных СМІ і, што вельмі важна, для дапамогі студэнтам, якіх выключаюць з ВНУ за іх грамадзкую дзейнасьць.

Прэм'ер-міністар Чэхіі Іржы Пароўбэк, адзін зь лідэраў сацыял-дэмакратычнай партыі, неасьцярожна выказаўся наступным чынам: "Справа Беларусі – гэта іх унутраная справа Нам, безумоўна, шкада беларускі народ і мы жадаем яму хучэй прыйсьці да дэмакратыі, але мы не зьбіраемся парываць ніякіх эканамічных стасункаў з Беларусьсю". На наступны дзень яго раскрытыкавалі ўсе гоныя апанэнты, незалежная прэса, а таксама і некаторыя палітыкі.

Беларусы Чэхіі не засталіся ўбаку і арганізавалі пікет каля будынку ўраду ЧР. У звароце быў заклік да чэскага ўраду ўвесьці эканамічныя і палітычныя санкцыі супраць рэжыму Лукашэнкі. Празь дзень Іржы Пароўбэк выступіў ужо ў зусім іншым тоне.

Цікавасьць да беларускай праблематыкі пашыраецца ня толькі праз СМІ. Увагу да яе падтрымоўваюць і навучальныя ўстановы. Так, 28 сакавіка арганізацыя Amnesty International арганізавала на юрыдычным факультэце Карлава ўнівэрсытэту канфэрэнцыю "Беларусь – апошняя дыктатура Эўропы". У першай палове былі паказаны дакумэнтальны фільм Юрыя Хашчавацкага "Звычайны прэзыдэнт" (перакладзены на чэскую), у другой – дыскусыйнай – усе выступоўцы адзначалі важнасьць зьяўленьня ў Беларусі рэальнага лідэра, што маладое пакаленьне жадае пераменаў, што рэжым аганізуе, і што нам усім трэба актыўна змагаціся, каб зьмяніць сытуацыю. Агульная думка была такая: беларускі народ, які пераадолеў страх, у рэшце пераможа рэжым. Чэскія студэнты праявілі вялікую цікавасьць, заля была поўная. Дыскусія працягвалася больш за дзьве гадзіны. Галоўнае, што засталося на сэрцы – аптымізм, вера, што мы не адныя, і перакананьне ў тым, што мы здольныя на барацьбу, мы заслугоўваем таго, каб жыць у будучым у вольнай і дэмакратычнай Беларусі.

**Аўген СІДОРЫК**

# Дзень Волі ў беларускіх асяродках замежжа

## З Ш А

### Кліўленд

У нядзелю 26 сакавіка ў беларускай праваслаўнай царкве Жыровіцкай Божай Маці ля Кліўленду адбылася ўрачыстая літургія, якую служылі япіскап Германас і айцец Якаў. Пасьля Багаслужбы вернікі й госьці перайшлі ў залю цэнтру "Полацак", дзе адбылася ўрачыстая акадэмія і банкет.

Малітву "За Беларусь" на беларускай мове прачытаў грэка-каталіцкі сьвятар Ігар Лабацэвіч.

Вёў акадэмію Павал Васілеўскі, старшыня аддзелу БАЗА ў Агаё. Былі агалошаныя віншаваньні ад Прэзыдэнта ЗША Джорджа Буша і Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы з нагоды 88-х угодкаў беларускай незалежнасьці.

Усе ўдзельнікі імпрэзы горача абмяркоўвалі падзеі ў Беларусі і выказвалі падтрымку змагарам за дэмакратычныя перамены. Сп. Аўген Кабяка зарганізаваў збор сродкаў на "Дар Сакавіка".

Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі ўдзельнікі сьвяткаваньня доўга не разыходзіліся, абмяркоўвалі падзеі на Бацькаўшчыне, спадзяючыся на хуткія перамены да лепшага.

***Вернік з Кліўленду***



***На здымку: за сталом а. Якаў, япіскап Германас, сп. Павал Васілеўскі, а. Ігар Лабацэвіч.***

### Нью Ёрк

У Нью Ёрку 26 сакавіка ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага ў Брукліне, адбылося сьвяткаваньне 88-х угодкаў незалежнасьці Беларусі й Акту 25 сакавіка 1918 году, ладжанае Нью Ёрскім аддзелам БАЗА з удзелам аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі. Вялі імпрэзу Гражына Залеўская і Мікола Цімашэнка.

Урачыстая акадэмія пачалася выкананьнем гімну Злучаных Штатаў (сьпявала Вольга Казак) і беларускага рэлігійнага гімну (Алесь Казак). Да прысутных зьвярнуліся з прывітаньнямі й кароткімі прамовамі старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку Віталь Зайка, старшыня Галоўнай управы БАЗА Антон Шукелойць, старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі Юрка Азарка. Затым былі прачытаныя прывітаньні Прэзыдэнта ЗША Джорджа Буша і Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвіллы.

Паэт і бард Сяржук Сокалаў-Воюш выканаў свае патрыятычныя песьні. Затым Алла Орса-Романо зачытала праклямацыю ад мэра Нью Ёрку М. Блумбэрга, былі зачытаныя праклямацыі ад губэрнатара штату Нью Ёрк Дж. Патакі (Павал Романо) і ад губэрнатара штату Нью Джэрзі Дж. Корзайна (Юрка Азарка).

Сп. Вячка Станкевіч прачытаў рэфэрат "Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка і сусьветная салідарнасьць", у якім былі ўдала спалучаны кароткая гісторыя Беларусі ў 20-м стагодзьдзі, апошнія падзеі ў Беларусі й вакол яе і патрэба салідарнасьці беларускіх сілаў па ўсім сьвеце дзеля дасягненьня перамогі над рэжымам Лукашэнкі. Юрась Міхед прачытаў верш М. Багдановіча "Пагоня" і тэкст Трэцяй Устаўной Граматы Рады БНР ад 25 сакавіка 1918 году.

Музыка Паўлюк выступіў зь вязкай песьняў гурта "NRM", якую энтузіястычна прыняла прысутная моладзь. Напрыканцы акадэміі ўсе прысутныя адсьпявалі разам беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Затым пачаўся сьвяточны абед зь беларускіх страваў, і адбыўся канцэрт, на якім выступілі Валянціна Пархоменка і трые сям'і Казакоў. Прысутныя танчылі й падпявалі музыкам. Па словах удзельнікаў, імпрэза прайшла надзвычай удала, і сабрала рэкордную колькасьць удзельнікаў — больш за 150 чалавек.

Асаблівая падзяка за падрыхтоўку й правядзеньне сьвяткаваньня належыць Міколу і Зоі Вашкевічам, Валеру Дворніку, Алле Орса-Романо, Сяргею Пятровічу, Сяргею Капытку, Тацьцяне Красоўскай, Гражыне Залеўскай, Міколу Цімашэнку, Міколу Сагановічу, Анатолю Колбуну.

***Яўген МАРОЗ***

### Саўт Рывэр

Як ужо замацавалася шматгадовай традыцыяй, сёлетнія 88-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі былі адзначаныя ўрачыстым падняцьцем бел-чырвона-белага сьцягу ля будынку гарадзкой управы. Ва ўрачыстасьці ўзялі ўдзел мэр гораду сп. Робэрт Шэгеты, настаяцель царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай а. Міхаіл, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Робэрт Цупрык ды іншыя. Мэр гораду прачытаў праклямацыю, якою дзень 25 сакавіка абвяшчаўся Беларускім днём, ды ўручыў яе сп. Цупрыку.

У нядзелю 26-га ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай а. Міхаіл адслужыў пасьля літургіі малебен за Беларускі народ. Амэрыканскі й беларускі сьцягі трымалі ў часе малебну сп. сп. Робэрт Цупрык і Жорж Лешчанка, старшыня царкоўнай управы.

Праграма акадэміі, якую вёў сп. Робэрт Цупрык, і якая пачалася амэрыканскім гімнам, складалася з прачытаньня прывітальнага ліста ад Прэзыдэнта Джорджа Буша да праклямацыяў, якімі дзень 25 сакавіка быў абвешчаны Беларускім днём губэрнатарам штату Нью-Джэрзі Джонам Корзайнам і мэрам гораду Саўт-Рывэру.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. Міхась Сенька. Ён азнаёміў з асноўнымі гістарычнымі фактамі, а таксама выказаў падтрымку тым у Беларусі, хто дэманстраваў апошнімі днямі ў абароне справядлівых выбараў і дэмактарычных свабодаў.

Сп. Цупрык азнаёміў прысутных з паведамленьнем газэты "Нью-Ёрк Таймс" пра апошнія падзеі ў Беларусі. Сп. Сенька прачытаў прывітальнае слова Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, а таксама сп. Міхася Белямука. Сп-ня Віла Леўчук, як заўсёды, прадэклямавала свой новы патрыятычны верш.

Сп . Віталь Алісіёнак, малады чалавек, які нядаўна прыбыў з Бацькаўшчыны, заклікаў прысутных падтрымаць фінансава тых у Беларусі, хто за ўдзел у нядаўнай дэманстрацыі будуць пакараныя звальненьнем з працы і будуць мець цяжкасьці ўладкавацца на працу ізноў.

Урачыстасьць закончылася агульным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Пасьля гэтага спараства Валянцін і Тацьцяна Дзямешчыкі пацешылі слухачоў выкананьнем пад музыку беларускіх патрыятычных і лірычных песьняў.

***Я. З.***

## Аўстралія

### Мэльбурн

У нядзелю 26 сакавіка Беларускі Цэнтральны Камітэт супольна з парафіяй БАПЦ Сьв. Віленскіх Пакутнікаў адзначылі 88-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сьвяточны дзень пачаўся Багаслужбай а 10-й гадзіне раніцы. Пасьля літургіі а. Аляксандар і а. Юры супольна адслужылі малебен за беларускі народ. Закончылася малебен рэлігійным гімнам "Магутны Божа", які сьпявалі ўсе вернікі прысутныя ў царкве.

Падчас абедзенага перапынку вернікі павіншавалі настаяцеля царквы а. Аляксандра Кулакоўскага зь днём нараджэньня (быў 25 сакавіка) і адсьпявалі яму "Многія лета". Айцец Аляксандар доўгія гады абслугоўвае ўсе рэлігійна-царкоўныя патрэбы беларускай грамады Мэльбурну.

Урачыстую акадэмію пачаў Старшыня БЦК сп. Янка Барысевіч, які прывітаў усіх прысутных і гасьцей з Адэляйды, Старшыню Беларускага Аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі Віктара Кавалеўскага з жонкай Інай.

Наступна Аўген Груша прачытаў прывітаньні, дасланыя на Фэдэральную Раду БАА і рэфэрат на тэму сьвяткаваньня, які асьвятліў падзеі 1917-18 гадоў у Беларусі. Рэфэрат напісаў сп. Янка Барысевіч.

Аўген Груша таксама паведаміў пра падзеі папярэдняга тыдня ў Беларусі, аб моладзі, якая на вуліцах Менску адстойвала свае чалавечыя правы і беларускую незалежнасьць.

Пасьля дэклямавалі вершы Вера Шайпак, матушка Ірэна, Аня Буцак і Аўген Груша, які прадэклямаваў два вершы.

Скончылася ўрачыстая акадэмія агульным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

***Аўген ГРУША***

## Канада

### Таронта



На цэнтральнай плошчы Таронта 26 сакавіка перад гарадзкой управай адбыўся шматлюдны мітынг, прысьвечаны 88-м угодкам БНР і ў знак пратэсту супраць гвалту і перасьледаў у Беларусі. Выступілі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, сакратар прэм'ер-міністра Канады Джэйсан Кэні, дэпутаты парлямэнту Борыс Вжэснеўскі і Пэгґі Нэш, пісьменьніца Вольга Іпатава і іншыя.

Мітынг пачаўся гімнам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", а закончыўся неўміручымі радкамі песьні "Магутны Божа", якія сьпявалі ня толькі ўдзельнікі гурту "Яваровыя людзі" з Згуртаваньня Беларусаў Канады, але і ўся плошча. Арганізатары мітынгу падрыхтавалі вялікія стэнды з фатакарткамі апошніх гвалтоўных дзеяньняў уладаў Беларусі, каля якіх тоўпілася мноства людзей. "Мы з вамі, беларусы!" — гаварылі канадыйцы, што таксама прыйшлі на мітынг у падтрымку дэмакратыі ў краіне "апошняй дыктатуры ў Еўропе."

***Р. КАЧАТКОЎ***

## Чэхія

### Прага

Адзначэньне 88-х угодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі сёлета ў Празе адбылося традыцыйна. Беларусы Чэхіі раніцой сабраліся на Альшанскіх могілках, каб ушанаваць памяць першых прэзыдэнтаў БНР П. Крэчэўскага і В. Захаркі. Па абедзе адбылося ўрачыстае паседжаньне ў люстраной зале Клемэнтынума, дзе быў зачытаны ліст з віншавальнымі словамі ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Дырэктар беларускай службы Радыё "Свабода" Аляксандар Лукашук, які толькі вярнуўся зь Менску, распавёў аб падзеях там. Сяргей Навумчык зачытаў зварот да сусьветнай супольнасьці ад імя беларусаў Чэхіі, у якім выказалася спадзяваньне, што цывілізаваны сьвет не застанецца ўбаку ад беларускіх падзеяў і з заклікам у падтрымку беларускага народу і больш жорсткага стаўленьня да дыктатарскага рэжыму.

У гэтай-жа залі была арганізаваная невялічкая выстава, прысьвечаная нашай славутай зямлячцы Ларысе Геніюш. Паэт Міхась Скобла цікава распавёў аб некаторых невядомых раней старонках яе біяграфіі, зачытаў некалькі сваіх вершаў, а напрыканцы падараваў сваю толькі што выдадзеную кнігу Славянскай бібліятэцы ў Празе.

На заканчэньне імпрэзы ў выкананьні этнічнага трыа Алеся Лася прагучалі беларускія народныя песьні.

***www.bielarusy.org***

## Летува

### Вільня

Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве 25 сакавіка ўрачыста адзначыла Дзень Волі. Утульная заля сядзібы ТБК была перапоўненая. Прыгожае афармленьне інтэр'еру нацыя-

***Заканчэньне на бачыне 8***

*Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ*

# Наша чарга (эсэ)

Кожны нармальны чалавек позна ці рана павінен зацікавіцца сваім радаводам. У адных гэта бывае яшчэ ў дзяцінстве, калі малое чапляецца да бацькоў з пытаньнямі тыпу: "А хто быў мой прадзед?", "А прабаба?", "А іхныя бацькі?" Іншыя пачынаюць цікавіцца пазьней, калі пакутліва шукаюць сэнсу жыцьця й свайго, вызначанага лёсам, месца пад сонцам. Нехта пачынае думаць пра радавод у гады, калі прыйшоў час адказваць сваім малым на згаданыя пытаньні. А нехта носіць у сабе тыя-ж пытаньні да сталага веку й разраджаецца імі ў часе, калі запытацца адказу няма ў каго.

Я цікавіўся сваім радаводам заўсёды. Пра некаторых продкаў ведаю больш, пра некаторых – нічога. Часам, толькі імя. Часам – аповяды, часам сьмешныя, а часам амаль казачныя выпадкі.

Цяжка сказаць праўда тое ці не, але адзін мой зродны брат меў нагоду пакорпацца ў санкт-пецярбургскіх архівах. Я сустрэўся зь ім у Празе, куды яны з жонкай завіталі пасьля іртовага адпачынку ў чэскіх Карканошах. Узяўшы па трэйцім, калі ня шостым, келіху віна ён распавёў мне пра плён сваіх пошукаў. Я веруў у яговыя словы, пакуль у аповядзе не пачалі зьяўляцца гістарычна вядомыя асобы.

Па-першае, пра такіх продкаў у сем'ях звычайна ведаюць. Вось быў-жа ў майго няроднага дзядзькі далёкі крэўны, які ў 30-я гады мінулага стагодзьдзя прыходзіў да яго пазычаць атрамантy для асадкі. Што ён тым атрамантам пісаў – ня ведаю, а толькі па сканчэньні школы пакінуў родную Лепельшчыну, даў нырца ў жыцьцёвыя плыні да праз які дзясятак гадоў вынырнуў ажно ў Маскве, ды яшчэ на неабыякой пасадзе ў ЦК кампартыі СССР. Пазычанага атрамантy дзядзьку не вярнуў. На Лепельшчыну забыўся. Але-ж мы яго памяталі.

Па-другое, прынагодна вывучаючы свой радавод, я ні на што падобнае не натыркаўся, хаця ведаю продкаў шмат лепш ад брата.

Ну а па-трэйцяе, гаварыць гэты брат умее доўга й складна, і словы тыпу памылка ці недакладнасьць, у дачыненьні сябе, яму невядомыя.

Гэткім чынам, па-мойму, ані Сокалавы, ані Воюшы зь Лепельшчыны ніяк сябе ў мінулым не паказалі, нічога гістарычназначнага не зрабілі, хаця былі сярод іх і майстры, і ваяры, і гандляры. А найбольш: звычайны сялянскі род, калі не лічыць бабулі па мячы, якая паходзіла з адукаванай шляхты. Мой дзед, Генадзь Сокалаў, недзе ў 1918 годзе скраў яе ў бацькоў, што ў тым часе бязьбедна атабарыліся ў Маскве, прывёз у вёску Сакалы, што пад Лепелем, і пайшоў на вайну.

І ўсё-ж, натрапляючы на розныя йменныя паказальнікі ў кніжках ці Інтэрнэце, я заўсёды шукаю ў іх добры дзясятак прозьвішчаў свайго роду або радзінаў сваіх найлепшых сяброў. Часам шанцуе. Аднойчы знайшоў прозьвішчы продкаў адной маёй знаёмай як па мячы, так і па кудзелі. Выявілася, што жылі яны ў той самай вёсцы ажно з XVII стагодзьдзя. Пэрыядычна трапляецца досыць рэдкае прозьвішча аднаго сябра, пра што я яму заўсёды паведамляю. Ёсьць пара-другая сяброў, чые прозьвішчы ня трапіліся ніколі. Тое-ж і з маімі. Відаць, жылі й не вытыркаліся, нікуды асабліва ня лезьлі. І чым больш я пераконваюся ў слушнасьці гэтай думкі, тым часьцей у мяне ўзьнікае пачуцьцё віны перад сваім народам, перад тымі ягонымі прадстаўнікамі, што ўславілі нашую зямлю мірна або збройна, перад тымі, што не пабаяліся пакінуць свае імёны ў гісторыі й перадаць іх нашчадкам.

Усё напісанае вышэй спала мне на думку перад прэзыдэнцкімі выбарамі, калі ў шэрагах кандыдатаў зьявіўся Аляксандар Мілінкевіч – праправўнук і праўнук паўстанцаў Каліноўскага, унук заходне-беларускага змагара за нацыянальную школу. Стаць побач з чалавекам за чыёй сьпінай такі радавод – ганарова, як ня менш ганарова стаць і побач зь Зянонам Пазьняком, у якога радавод таксама не шараговы. Таму мяне зьдзівіла пазыцыя некаторых нашых вядомых дзеячоў, што апынуліся ў іншых камандах. Захапляючыся каліноўцамі, ўслаўляючы іх, яны, у той самы час, становяцца ў апазыцыю да іхных нашчадкаў. Дзе лёгіка? А можа ў іхных радаводах спрэс Скарыны, Сапегі ды Касцюшкі? Можа іхныя продкі, ня так як мае? Можа яны цяжкімі часінамі не хаваліся пад саламянымі стрэхамі ды ў ваўчыных ямах, а стаялі пад Грунвальдам ці гадамі трымалі атачаны расейцамі Стары Быхаў і тое засьведчана дакумэнтальна, або ў сямейных паданьнях?.. Не выглядае...

І вось я думаю: а ці ня наш час прыйшоў тварыць гісторыю ды перамагаць у імя Айчыны? Ці ня наша чарга сплочваць пазыку перад уласным народам і памяцью тых вядомых ці проста помных, хто ўславілі яго ў мінуўшчыне?

Гэтая частка эсэ была напісаная перад выбарамі й наўмысна адкладзеная, каб дапісаць пасьля... Сёньня тое "пасьля" ўжо надыйшло.

З болем і захапленьнем увесь апошні месяц вывучаў весткі з Радзімы. Колькі новых імёнаў, новых герояў! Колькі змагароў за Беларусь! Усе гэтыя людзі ўжо ўвайшлі ў гісторыю, усе далі сваім нашчадкам той падмурак зь мінулага, на якім можна цьвёрда стаяць, будуючы сваю краіну. Нават калі нехта зь іх ня здолее перадаць свой жыцьцёвы досьвед наступнікам, за яго гэта зробяць сябры, аднадумцы, родныя, за яго гэта зробяць шматлікія публікацыі ў незалежных выданьнях рознага кшталту. І мы больш ніколі ня будзем мець безыменных герояў. Мы больш ніколі ня будзем мець вартых, але забытых, або пакінутых па-за ўвагай гісторыі.

Пішу гэтыя радкі, а перад вачыма стаіць здымак зьбітага прыўладнымі нелюдзямі на сьмерць Сяргея Атрошчанкі. Звычайны твар звычайнага чалавека: ні страху, ні роспачы. Цьвёрды спакой. Тыповы Беларус. Прыйшоў выканаць сваю высакародную місію. Шляхетна, годна, як і належыць сапраўднаму чалавеку з майго народу.

Вядома, у апраўданьне сваёй бязьдзейнасьці сёй-той можа прывесьці безьліч важкіх аргумэнтаў. Сёй-той можа спасылацца на засьведчанасьць свайго імя ў гісторыі, як гэта мог-бы зрабіць я, чые продкі далі назву аднаму з населеных пунктаў Беларусі – згаданай ужо вёсцы Сакалы... І, напэўна, некаму таго было-б досыць. Вось толькі вёска Сакалы ўжо з паўстагодзьдзя як не жыве. Яна загінула па Другой Сусьветнай, здолеўшы пераўжыць уладу фашыстоўцаў, але не пераўжыўшы вясковай палітыкі "самай народнай, самай прагрэсыўнай у сьвеце" савецкіх. Гэта значыць, што ніякі подзьвіг тваіх продкаў не гарантаваны ад забыцьця, калі нашчадкі не пярэймуць самога духу зробленага, не памножаць яго сваёй дзейнасьцю і не перададуць працяг справы ў рукі наступнікаў.

"Край вялікіх і дум, і людзей," – з моцным захапленьнем ад старых часоў і адначасна з глыбокім сумам над сучаснасьцяй, ды зь вялікім авансам нашчадкам назваў некалі Беларусь паэта й вяжр БНР Уладзімер Жылка. Паэтычнае пачуцьцё падказвае мне, што меў ён на ўвазе і нас – тых, чый радавод толькі пачынаецца на вуліцах і плошчах сёньняшняй змагарнай Беларусі, тых, хто сёньня выгукае з-за кратаў: "Жыве Беларусь!" і ў адказ чуе ня рэха вастрожных калідораў, а тысячы жывых галасоў з вуліцы: "Жыве!"

*2 красавіка 2006 г.*

**Віншуем шаноўную спн. Івонку СУРВІЛЛА, Старшыню Рады БНР, зь 70-мі ўгодкамі зь дня нараджэньня.**

*Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ*

**Ня просты шлях да мэты простай:**
**За Беларусь! – Шляхі сьвятыя.**
**Ваш лёс змагарніцкага хросту.**
**І побач з Вамі мы цьвярдыя,**
**І разам з Вамі сьмела й годна**
**Ажыцьцяўляем запаветы**
**Сваёй Рэспублікі Народнай,**
**Як самай найвышэйшай мэты.**
**І вечнасьць зьзяе чыста, востра,**
**І сьвецяць далі залатыя,**
**Бо ў змагароў няма ўзросту,**
**Яны заўсёды маладыя!**

*Сябры й аднадумцы, Прэзыдыюм Рады БНР*

Шаноўныя чытачы! Безумоўна, акцыі з нагоды выбараў і сакавіковыя сьвяткаваньні прайшлі па сьвеце нашмат шырэй, чым пададзена на бачынах газэты. Мы зьмясьцілі толькі тыя матар'ялы, якія былі дасланыя ў рэдакцыю самымі арганізатарамі ці ўдзельнікамі падзеяў.

## Дзень Волі ў Вільні

*Заканчэньне з бачыны 7*

нальнай сымболікай было выканана мастакамі таварыства. Пасьля гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." старшыня ТБК распавёў пра гісторыю БНР, яе ўрад, яго дзейнасьць і сучасны стан. Зачытаў зварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Затым выступіў заснавальнік беларускай суполкі Латвіі, вядомы мастак Вячка Целеш, які распавёў пра стан беларускіх справаў у Латвіі.

Аб становішчы ў Беларусі распавялі А. Старавойтаў і А. Адамковіч.

З прывітаньнямі выступілі таксама: прапагандыст беларускай культуры ў Летуве Валдас Банайціс, настаўніца Алена Забельская і мастак Станіслаў Зялёнка.

Імпрэза прайшла вельмі пасьпяхова, і людзі ўжо за кубкам кавы ў прыемнай сямейнай бясэдзе доўга яшчэ не хацелі разыходзіцца, каб ізноў сустрэцца 29 красавіка.

Усю імпрэзу зьняло на стужку Летувіскае тэлебачаньне, а таксама свая кінакамэра для архіву.

*Хведар НЮНЬКА*

**"БЕЛАРУС" бясплатна надрукуе кароткія прыватныя аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.**

НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Юрка Андрусышын | 50 |
| Я. Завістовіч | 50 |
| Ю. Лапіцкі | 50 |
| М. Сіцько | 50 |
| М. Бахар | 40 |
| А. Міцкевіч | 40 |
| М. Сьнежка | 40 |
| К. Акула | 30 |
| Юля Андрусышын | 30 |
| В. Балашчэнка | 30 |
| А. Варанцова | 30 |
| Р. Гарошка | 30 |
| А. Дзьмітрук | 30 |
| В. Зайка | 30 |
| З. Капцоў | 30 |
| А. Лабковіч | 30 |
| Дз. Мажэйка | 30 |
| С. Пятровіч | 30 |
| Ж. Наумчык | 30 |
| М. Чупракоў | 30 |
| М. Швэдзюк | 30 |
| І. Юхнавец | 30 |
| В. Яскевіч | 30 |

**Усім шчыры дзякуй!**

БЕЛАРУС
Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выдае штомесячна:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Сусьветнае сеціва: baza-belarus.org
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

BIELARUS
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
Belarusan American Ass'n, Inc.
Subscription $30 yearly
Make checks payable to BIELARUS

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.



Адрас для допісаў і кантактаў:
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
E-mail:
hazetabielarus@att.net
Сусьветнае сеціва:
www.bielarus.org

ISSN 1054-9455